# БЕЛАРУСЬ

Штадзенная палітычна-эканаміцкая і літэратурная газэта

пад агульным кіраўніцтвам Язэпа Лёсіка

ГОД ВЫДАНЬНЯ II.

Падпіска на 1 м-ц: з перасыл. 20 р. без перас. 17 р.

АБВЕСТКІ: на 4-й страніцы прымаюцца ва ўсіх мовах па 2 мк. за радок пэтыту.

Газэта выходзіць штадня, апроч дзён пасьвяточных.

Рэдакцыя і Кантора: Менск, вул. Міцкевіча, Беларускі Дом (б. Юбілейны).

Рэдактар прымае ад 12—1 гадз. Кантора адчынена ад 9 да 2 гад.

Рукапісы павінны быць чытэльна напісаны і з адрэсам аўтара.

Аплата прынятых рукапісаў залежыць ад рэдакцыі.

Рукапісы назад не выдаюцца.

ЦАНА 1 МАРК.

№ 61 (117). Менск, Пятніца 19 сакавіка 1920 г. № 61 (117).


## Прывет Бацьку Польскай Дзяржавы Язэпу Пілсудзкаму.

Сягодня Начальнік Польскай Дзяржавы Язэп Пілсудзкі сьвяткуе свае імяніны. Разам з ім у гэты дзень сьвяткуе Польшча; да гэтаго сьвята далучаюцца і сыны нашага краю, пакладаючые на яго надзеі, што ён вызваліць беларускі народ з нацыянальнай няволі, злучыць усе беларускіе землі ў адну дзяржаўную адзінку і дапаможа беларускаму народу ў справе адбудаваньня незалежнай і непадзельнай Беларусі ў фэдэрацыйнай сувязі ўсіх народаў гістарычнай Літвы з сталіцай у Вільні.

Лёзунгам Я. Пілсудзкага ёсьць вольнае разьвіцьцё вольных народаў. За свае пераконаньні ён цярпеў пры расійскім царскім урадзе ў вастрогах і ссылцы. За гэта самае ён цярпеў і ад немцаў.

Арганізуючы ў Аўстрыі польскае войско, ён формаваў іх з мэтай барацьбы за незалежнасьць і вольнае разьвіцьцё польскага народу.

Калі немцы паставілі яму ультыматум аб прысязе на вернасьць Аўстрыі і Нямеччыне, ён лепш згадзіўся пайсьці зноў ў вастрог, як здрадзіць сваім пераконаньням, і толькі разгром Нямеччыны вызваліў яго з гэтага апошняга палону.

За свой лёзунг—волі народаў—ён і цяпер кладзе свае сілы ў барацьбе з рэакцыйнымі сіламі, якіе перашкаджаюць яму ў працы.

Наш край стаіць вельмі блізка да сэрца Я. Пілсудзкага. Сам радзіўшыся ў гэтым краі, ён добра знаёмы з нядоляй і цяжкімі варункамі жыцьця беларускага народу.

Працуючы ў польскай соцыялістычнай партыі, ён прымаў шчырае учасьце ў працы над прасьветай беларускага народу разам з першымі працаўнікамі ў адраджэньні Беларусі, і ў 1896 годзе ён першы кінуў кліч аб галоўнай мэце—беларускага руху — *Незалежнасьць Беларусі*, што і было ўнесено ў праграму Беларускай Соцыялістычнай Грамады.

У бытнасьць сваю ў Кракаве ў пачатку дзевяцісотых гадоў Я. Пілсудзкі дапамагаў у беларускіх нелегальных выданьнях і ў дастаўцы іх у наш край, дзеля пашырэньня сярод народу.

Вось якую дапамогу даваў пачынальнікам беларускага руху п. Язэп Пілсудзкі тагды, калі гэты рух быў яшчэ зусім малым і абнімаў толькі невялікі лік беларускай нацыянальна сьвядомай інтэлігэнцыі.

Цяпер, калі гэты рух ужо абхапіў шырокіе народные масы, якіе голасна выказуюць патрэбу незалежнага жыцьця дзеля лепшай будучыны Беларусі, мы пэўны, што Я. Пілсудзкі, як і раней, прыложыць усе свае сілы, каб зьдзейсьніць тые ідэалы, ў формаваньні якіх ён прымаў такое жывое учасьце.

Дзеля гэтага мы вітаем п. Язэпа Пілсудзкага—аднаго з першых прарокаў *Незалежнасьці Беларусі*.

## Прэч „крэсы“ і „акраіны“!

Афіцыяльнае паведамленьне соймавай камісіі загранічных справаў, падпісанае старшынёю камісіі п. Грабскім і зьмяшчаючае ў сабе асновы тых патрабаваньняў, якіе маюць быць абвешчаны савецкаму ураду, не асталося безрэзультатным. Яно пакінуло пэўнае уражаньне, як у самой Польшчы, так і па-за межамі яе.

Польскіе соцыялісты падалі ў Сойм запрос, з прычыны таго, што рэдакцыя гэтага паведамленьня была наўмысьля заблутана і погляды большасьці камісіі былі няправільна паказаны.

Рускіе эміграцкіе кругі ў Парыжы моцна запротэставалі, лічачы, што Польшча замерваецца на сувэрэнные расійскіе землі.

Бальшавікі, гэтак сама лічачы гэтые землі за „каранные расійскіе“, выкарысталі паведамленьне соймавай камісіі дзеля сваіх агітацыйных мэтаў, укладваючы ў разуменьне чырвонаармейцаў не адно соцыяльна-клясавы, але і нацыянальны матыў у вайне Расіі з Польшчай.

Захад гэтак сама аказаўся. Як вядома, Польшча нядаўна адтрымала ад Антанты права „вольнай рукі“ ў справе вырашэньня ўсходняга пытаньня. Але замер польскіх імпэрыялістаў выклікаў трывогу ў паўных палітычных кругох, і Антанта, як-бы мяняючы сваю позыцыю ў „усходнім пытаньні“, пастанавіла паслаць у Расію спэцыяльную міжнародную камісію. Гэтым у Польшчы не адбіраецца права вырашэньня цяпер польска-бальшавіцкай спрэчкі, але пытаньні аб граніцах і тэрыторыях ужо ня будуць вырашаны без дачыненьня дзяржаваў Антанты.

Аб гэтых-жа пытаньнях у дзяржаваў Антанты няма згоднай думкі. Быў момант, калі коштам крыві і надзвычайных натугаў польскіе імпэрыялісты маглі дабіцца таго, каб Польшча стала сапраўды вялікай дзяржавай. Гэта магло-б здарыцца тагды, калі-б Польшча зьніштожыла бальшавізм і калі-б на зьмену бальшавізму ў Расію ня прышоў імпэрыялізм ў асобе, напрыклад, Дэнікіна, Калчака. Польшча тагды, разумеецца не надоўга, затрымала-б у сябе тэрыторыі, якіе яна патраціла ў 1772 годзе.

Цяпер стан рэчы моцна пераменіўся. Антанта больш не падтрымлівае Польшчу, а Польшча ня слухае загадаў Антанты. Англія выразна і катэгорычна даводзіць, што Польшча не павінна быць такою, як гэтага хочуць некаторые кругі польскага народу. Францыя покуль што яшчэ згаджаецца з замерамі польскіх імпэрыялістаў. Французскіе афіцыёзы вельмі спагадна адклікнуліся на ухіленьне „гістарычнай несправядлівасьці, учыненай Польшчы ў 1772 годзе“, і выкарысталі паведамленьне соймавай камісіі дзеля таго, каб паказаць польскаму народу нелойяльнасьць да яго Англіі і тую небясьпеку, якая выклікаецца энэргічнымі заходамі апошняй узяць у свае рукі вырашэньне ўсходняга пытаньня.

Нездарма англійскіе капіталісты наплываюць у Літву і Латвію. Нездарма англійскіе політыкі пашыраюць свой уплыў на ўсходзе. Саўсім ясна: Англія пачынае баяцца Польшчы, бо Польшча пачынае перарастаць самую сябе; яна заходзіць за мяжу сваіх этнаграфічных тэрыторый і пачынае займаць позыцыю, якая ня менш небясьпечна для Англіі, як даваенная позыцыя Гэрманіі.

Згадзецеся, што 15 мільярдаў на ваеннае будаўніцтво ня могуць не настрашыць тых, хто памагаў адбудоўваць вольную Польшчу, але ня думаў будаваць вялікай Польшчы. Рашэньне Польшчы направіць учыненую ёй „гістарычную несправядлівасьць“ выклікае ня толькі агульную трывогу ў яе нядаўных сяброў, яно выклікае гэтак сама патрэбнасьць тлумачэньня, што Польшча разумее пад выпраўленьнем „гістарычнай несправядлівасьці“? Польскіе імпэрыялісты разважаюць так: „калі гэтая тэрыторыя, незаселеная народам „рускім“, належыла некалі Польшчы, дык яе трэба адабраць ад Расіі і далучыць да Польшчы. Народ, насяляючы гэтые „крэсы“, сам вырашыць сваю долю“. Як, якім парадкам? На гэта польскіе імпэрыялісты да гэтага часу не далі простага адказу.

А тое што яны зьбіраюцца рабіць у форме „самаазначэньня“, ня можа гаварыць аб шчырасьці і справядлівасьці польскіх імпэрыялістаў. Вот чаму так энэргічна і не бяз прычыны протэстуюць расійскіе імпэрыялісты, бальшавікі ці контр-рэвалюцыянэры,—ўсё роўна. Яны маюць рацыю, калі кажуць, што землі гэтые—„заходня-рускіе акраіны“—не заселены палякамі і ня могуць належаць Польшчы. І гэтак сама, як і Польшча, маюць яны права патрабаваць, каб край гэты належыў Расіі. Роўна справядлівы адны і другіе імпэрыялісты, бо роўна справядлівы іх „мэты“ і замеры.

Але на наш пагляд, на пагляд тых, хто жыве ў гэтым краі, хто абрабляе гэтую зямлю, хто гаворыць гэтаю „простаю“ моваю,—на пагляд беларускага народу—ні палякі ні рускіе ня маюць ніякага права на гэты край. Калі жаданьне палякоў направіць несправядлівасьць 1772 году—справядлівае ў 1920 годзе, то ў 2068 г. можа стацца справядлівым жаданьне рускіх направіць несправядлівасьць, учыненую Расіі ў 1920 годзе.

Але дзьвёх праўд быць ня можа. Ёсьць толькі адна праўда. Гэта—праўда таго народу, каторы сам і толькі сам, можа быць гаспадаром свае зямлі і сам вырашыць сваю долю. Няма польскіх „крэсаў“, няма і рускіх „акраін“. Ёсьць зямля беларуская, якая павінна належыць толькі беларускаму народу. Вось тая справядлівая позыцыя, якую павінны заняць усе сумленные грамадзяне Польшчы і Велікаросіі.

Расія павінна адказацца ад тых тэрыторый, якіе заселены беларускім народам. Гэтые тэрыторыі цягнуцца далёка яшчэ на ўсход ад мяжы 1772 году. Польшча павінна гэтага патрабаваць ад Расіі. а сама—вярнуцца ў свае этнаграфічные граніцы. Беларускі народ ня будзе тагды прычынаю спрэчак. Згіне туман, атуляючы апьянелых ад імпэрыялізму палякоў і расійцаў. Назаўсюды згінуць непаразуменьні, спрэчкі і войны; між польскім і расійскім народамі ня будзе асабістых паквітаньняў.

Хоць гэта няпрыемна, але мы павінны сказаць, што да гэтага часу ў пытаньні аб „крэсах“ і „акраінах“ ня толькі буржуазна-памешчыцкіе, але і працоўные клясы польскага і расійскага народаў, займаюць імпэрыялістычную позыцыю. Соцыяль-дэмакраты і соцыяль-рэвалюцыянэры рускіе—савінкаўскага толку—глядзяць на наш край гэтак сама, як глядзіць на яго партыя польскіх соцыялістаў. Адны і другіе трымаюцца „акраіна-крэсаўскага“ пункту пагляду. Адны і другіе граюць пад дудку імпэрыялістаў захаду і ўсходу, адны і другіе ня могуць адагнаць ад сябе „акраіна - крэсоўскага“ туману.

Трэба, ўрэшце, зрабіць гэтаму канец. Прышоў момант, калі „акраіны“ альбо „крэсы“ якой-небудзь дзяржавы становяцца небясьпечнымі дзеля існаваньня самой гэтай дзяржавы. Англія, якая з вялікаю ахвотаю ішла насустрач справядлівым патрабаваньням Польскага народу, цяпер становіцца яму папярок дарогі. Заўтра сьледам за Англіяй можа пайці Францыя, пазаўтра—Гэрманія.

Польшча, з маўчаліваю згодаю сваіх соцыялістычных і радыкальных кругаў, творыць памылку, якую посьле трудна будзе паправіць. Ён разьдзеліць між сабою і расійскім народам часткі Беларусі і Украіны. Але польскі народ лепш за другіх ведае, што посьле ўсякага падзелу прыходзіць цяжкае паквітаньне. А каб некалі ня было расплаты за падзел Беларусі і Украіны, Польшча і Расія павінны, ўрэшце, пайці па аднэй справядлівай дарозе, гэта дарога — адказ ад „крэсаў“ і „акраінаў“.

— Прэч усялякіе „крэсы“ і „акраіны“ — вот той лёзунг, за якім павінны рушыць усе лепшые сыны польскага і расійскага народаў.

І калі польскі народ возьме на сябе гэтую ініцыятыву, — беларускі народ ў момант свайго дзяржаўнага адраджэньня гэтую дапамогу будзе помніць.

Г—ры.

## Беларуская кроніка.

**Беларуская сельска-гаспадарчая часопісь.**

Цэнтральны Беларускі сельска-гаспадарчы саюз мае ў хуткім часе выдаваць двухтыднёвую сельска-гаспадарчую часопісь, пад агульным кіраўніцтвам п. Уласава.

## МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**Сягоньня**, ў дзень імянін Начальніка Польскай Дзяржавы Я. Пілсудзкага, таварыство ім. Пілсудзкага арганізуе урач стасьць. Служачые установаў будуць вызвалены пасьля 1-ай гадзіны ўдзень ад працы. Увечары ў мястовым тэатры адбудзецца парадны спэктакль і даклад на тэму: „Што зрабіў Начальнік Дзяржавы?“

**Прыезд Начальніка Округу.** Сёньня прыяджае з Варшавы Начальнік Округу п. *Рачкевіч*, езьдзіўшы туды ў зьвязку з міравымі перагаворамі з бальшавікамі, ў справе беларускіх граніц паміж Польшчай і Расіяй.

**Выдача прапускоў спынена.** Камісар м. Менску, на моцы дэпэшы міністэрства дарог з дня 13-га сакавіка г. г. № 166 затрымаў выдачу прапускоў на праезд чыгункай на невядомы тэрмін аж да новага распараджэньня.

**Камісарыят м. Менску** пачаў рэгістраваць усе мясцовые грамадзкіе установы, саюзы, прыватные прадпрыемствы і коапэратывы. Усе яны павінны ў кароткі тэрмін паведаміць аб ліку членаў, капіталаў, складу праўленьня і чыннасьці ў 1918 г.

**Хлеб толькі паляком.** Подлуг прыказу намесьніка начальніка Менскага Округу Еленскага на гэтых днёх распачнецца выдача хлеба праз коапэратывы, належачые да цэнтралі польскіх супольных таварystваў.

Хлеб будзе выдавацца ўсім сябром коапэратываў, лік якіх дасягае 20.000, праз профэсыянальны саюз ім. Сташыца і праз хрысьціянска-дэмакратычны саюз.

На кожную сяброўскую кніжку будзе выдавацца штадня $^1/_2$ фунта хлеба па цане $3^1/_2$ маркі за фунт. Патрэбную на выпечку гэтага хлеба муку выдасьць інспэкторыят апровізацыі округу.

Гэткі парадак выдачы хлеба будзе трымацца аж датуль, пакуль апровізацыйная сэкцыя магістрату не пачне выдачы хлеба па картках усёй людnасьці.

Вышэйшы прыказ выданы з мэтай прыйсьці на помач народу, пакуль ня будзе патрэбнай арганізацыі.

**Упраўленьне Менскага Округу** зьвярнулося да мясцовага саюзу гандляроў з вымаганьнем прыняць усе меры да таго, каб цана на хлеб была да 20 сакавіка паніжана да 6 марак за фунт. Калі нічога ня ўдасца зрабіць да гэтага часу, дык саюз будзе зачынены, а ў адносінах да гандляроў хлебам будуць прыняты строгіе рэпрэсыўные меры. Калі-ж хлеб зусім зьнікне з рынку, дык члены праўленьня саюзу будуць асабіста адпавядаць.

**Мэдыцынскі пэрсонал** у веку да 50 год, мужчыны і кабеты, якіе жывуць у горадзе, павінны зарэгістравацца ў акружным санітарным інспэкторыяце з 17 да 24-га сакавіка. А тые з іх, хто жыве ў паветах, павінны рэгістравацца ў павятовых стараст да 1 га красавіка.

Гэты загад стаіць у зьвязку з прызываньнем на службу санітарнага пэрсоналу надалей аж пакуль закончыцца эпідэмія.

**Пэнсію** магістрацкім служачым і рабочым пастаноўлено фінансавай камісіяй новай думы павялічыць да нормы урадовых чыноўнікаў.

**У Цэнтрабелсаюз** увайшлі зацьвярджаные коапэратывы вось у якіх мясцох: у Калядзічах, Пяршай-Слабодцы, Койданаве і Блоні (Менскі павет) і маюць увайсьці так сама коапэрытывы Ігуменскага павету.

**Сельска-гаспадарскіе прылады**, закупленые Цэнтрабелсаюзам у Англіі, пасьля ўстанаўленьня нормальнага гандлёвага зьвязку, маюць прыбыць у Менск.

**На чыгунках** павялічана плата за пляцкарты на 100%. Пляцкартные білеты на перагоне Менск—Вільня каштуюць цяпер замест 20 і 40—40 і 80 мар.

**Рэмонт паравозаў** на беларускіх чыгунках пачаўся гэтымі днямі. Па скончэньні рамонту зьявіцца магчымасьць аднавіць пасажырскі і таварны рух на лініі Варшава—Менск.

**Рэгістрацыя хворых** гішпанкай і інфлюэнцыяй аб'яўлена санітарным аддзелам упраўленьня ўсходніх зямель. Подлуг гэтага загаду, ўсе дактары павінны паведаміць аб усіх выпадках занядужаньняў.

*Рэдактар—Я. ЛЁСІК.*

*Выдавец—К. ТАРЭШЧАНКА.*



З дазв. вайсков. цэнзуры № 60, 17/ш.

Менск. Друкарня Інвалідаў.